БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

24 сакавіка 1994 г.
Чацвер
№ 32(13749)
Кошт у розніцу 50 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК





**На цябе, наша моладзь, надзея!**

Фота Г. СЯРГЕЕВА.

## "ЭкспрэсЪ" на Маскву?

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ".

Пасля драматычных калізій, звязаных са зменай спікера, у сценах беларускага парламента рэгулярна (праўда, па розных прычынах) усталёўвалася залатое маўчанне. Яго зліткі не аказаліся падробленымі. Адбылася неардынарная падзея. Дэпутаты прынялі новую Канстытуцыю рэспублікі.

Што прынясе яна беларускаму народу? Пытанне не з парадку рытарычных і патрабуе асэнсавання. Пакуль ясна тое, што ў святцах часоў незалежнасці з'явілася новая чырвоная лічба. На фоне чорна-ружовых прыцемкаў яна зліваецца са змрочнай далечынёй на часовай адлегласці тэрмінам у адзін год. Дэклараваныя канстытуцыйныя каноны, па ўсёй верагоднасці, пачнуць дзейнічаць не сёння. Здаецца, канкрэтыку набывае адна з'ява, дзеля якой, магчыма, ламаліся коп'і ў парламенцкім рысталішчы: на Беларусі адбудуцца выбары прэзідэнта. Прычым, у даволі сціслыя, каб не сказаць дакладней, тэрміны. Старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Леўчык прадаставіў парламентарыям законапраект аб выбарах прэзідэнта. Хутка адбудзецца абмеркаванне дакумента ў другім чытанні — у першым ён прыняты. Выбары зоймуць гіганцкую нішу ў прасторы грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі. І пройдуць яны пры адметных абставінах.

У хуткім часе ангажыраваныя сродкі масавай інфармацыі распачнуць перадвыбарныя спрэчкі, аддаючы галоснасці шматлікія ўзоры высокай рыторыкі — у падтрымку ці супраць розных кандыдатаў. Аднак не ў гэтым сутнасць. "Тэмпература" беларускай эканомікі ў агляднай будучыні цалкам будзе залежаць ад расійскага калоса. Беларусь, як маленькая планета, знаходзіцца ў арбіце прыцягнення ўсходняй суперзоркі. Таму не вельмі важна, лідэр якога палітычнага накірунку стане ў дзяржаўнага руля.

Здаецца, аб лепшай фігуры, чым Станіслаў Шушкевіч, ва ўладнай пірамідзе дэмакраты і марыць не маглі. Бліскучы эрудыт і прамоўца, актыўны дзеяч перабудовы, апынуўшыся на вяршыні ўлады, не здолеў здзейсніць свае намеры, хаця ў руках былі ўсе рычагі, каб пазбегнуць расколу ў дэмакратычнай плыні і адстаўкі з паста старшыні ВС. Відавочна, улада змяняе тых, у чые душы трапляе яе залаты пылок. І тут трэба пагадзіцца з думкай славутага хірурга Святаслава Фёдарава, які прыкмеціў, што цудоўныя прафесіяналы-апазіцыянеры, аказаўшыся ва ўладных калідорах, літаральна праз дзень-два робяцца непадобнымі да саміх сябе. Дорага каштуе хаджэнне па мяккіх дыванах такіх калідораў.

Расія з яе золатам-алмазамі ўвесь час беларускага адраджэння нібыта прывід-спакуснік лунала перад нашымі рэфарматарамі. Цяпер яна набліжаецца і вырастае ў памерах. Стаўшае сакраментальным пытанне аб аб'яднанні грашовых сістэм на гэтым тыдні зноў выплыла са студзеньска-лютаўскай цемры і, здаецца, знойдзе сваё станоўчае вырашэнне. Расійскі прэм'ер Віктар Чарнамырдзін заявіў, што не бачыць перашкод на гэтым шляху. Аналагічныя ацэнкі зрабілі прадстаўнікі беларускага ўрада. Зліццё фінансаў аўтаматычна азначыць станаўленне больш грунтоўнага саюза ва ўсіх сферах.

Аднак галоўнае тое, што на рэспубліканскім узроўні пачне рэпрадуцыравацца расійская палітычная ява, як недалёкай даўніны, так і сучаснасці. Хаця і са своеасаблівасцямі.

Абяцанні ўласных перавыбараў, з якімі выступаў парламент, па-ранейшаму хвалююць грамадства. Такім чынам, за прэзідэнцкімі грымнуць парламенцкія баталіі. Па ўсіх прыкметах, сходнасць беларускай палітычнай мазаікі з расійскай рэчаіснасцю пачне павялічвацца. Але гэта будзе сходнасць у стылі "рэтра" — з тымі часамі, калі ў Маскве кіпелі "страсці па Барысу". Што адбывалася потым у Расіі (спачатку — СССР), усе памятаюць: хваробы росту дэмакратыі, бясконцы разлад паміж прэзідэнцкімі і парламенцкімі структурамі, сумны апафеоз — кастрычніцкі пажар у Белым Доме. На Беларусі такое немагчыма. Дзякуй Богу, не той размах, не тая дзяржава. Магчыма нешта падобнае: ціхая, невялікіх памераў, "кабінетная вайна" паміж чыноўнікамі, апаратнымі людзьмі.

Складваецца ўражанне, што Беларусь, нібыта па нейкаму зоркаваму загаду, паўтарае магутнаімклівы рух Расіі, дубліруе яе ракавы поступ. Калі ж паспрабаваць уявіць у свядомасці ўмоўную посткамуністычную рэтраспектыву маскоўскіх бурных падзей, стане відавочным: многія з іх узрушвалі грамадства па прычыне прагрэсіруючай узаемнай непрыязнасці прэзідэнта і парламента. Быццам у крамлёўскіх кабінетах ажыццяўлялася французская прымаўка аб тым, што здраджваюць толькі свае, і ўчарашнія паплечнікі адзін за адным заносіліся ў "чорныя спісы". Застаецца спадзявацца: у нас будзе па-іншаму.

Як бы там ні было, час разваг аб неабходнасці (ці наадварот) прэзідэнцкай пасады на Беларусі мінуў. Парламент сказаў сваё слова. Камунікацыйны цуд — тэлебачанне з электроннымі флюідамі і ўафарбоўцы сучаснасці разнесла яго па свеце. Высокае крэсла чакае гаспадара. Але каго — тут слова за народам.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Як самастойная палітычная сіла

*На сумесным пасяджэнні кіруючых органаў аграрнай партыі Беларусі, Савета калгасаў, Саюза аграрнікаў, прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу і Саюза фермераў рэспублікі ўтвораны выбарчы блок аграрнікаў.*

На маючых адбыцца выбарах прэзідэнта аграрнікі выступяць як самастойная палітычная сіла. Кандыдатамі ў прэзідэнты былі названы старшыня Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па аграрных пытаннях, прадуктах харчавання і сацыяльнаму развіццю вёскі Уладзімір Гаркун, кіраўнік Савета калгасаў Аляксандр Дубко і цяперашні міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Фёдар Мірачыцкі. Канчатковае рашэнне будзе прынята пасля назначэння даты выбараў. Створаны каардынацыйны савет блока.

БЕЛІНФАРМ.

### Прамы эфір з Шушкевічам

*Экс-спікер беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч выступіў учора ў прамым эфіры на радыёстанцыі "Крыніца". Ён даў сваю ацэнку сучаснага становішча ў Беларусі і адказаў на шэраг пытанняў радыёслухачоў.*

У прыватнасці, былы Старшыня Вярхоўнага Савета адзначыў, што белавежскія пагадненні не мелі б законнай сілы, калі б парламент практычна адзінагалосна не ратыфікаваў іх у свой час. Аднак і цяпер ён лічыць гэтыя пагадненнні станоўчым фактарам, які даў магчымасць упарадкаваць адносіны паміж рэспублікамі былога Саюза. Іх заключэнне прадугледжвала ўмацаванне сувязей у новых гістарычных умовах, а не іх разбурэнне.

Ацэньваючы работу камісіі, якую ўзначальвае Аляксандр Лукашэнка, экс-спікер падкрэсліў, што яна працавала не на прафесійным узроўні. Пафас выступлення спадара Лукашэнкі ў парламенце (калі абвінавачваўся Шушкевіч) адпавядаў настрою дэпутацкай большасці, але фактычны бок той прамовы меў другараднае значэнне. "Я ніколі не карыстаўся прывілеямі", — сказаў С.Шушкевіч.

Ён выказаў думку, што "беларуская жырыноўшчына" не пераможа. Станіслаў Станіслававіч пашкадаваў, што ў друку пачала з'яўляцца лжывая інфармацыя пра яго, прывёўшы ў якасці прыкладу нядаўнюю публікацыю ў газеце "Советская Белоруссия". Зазначыўшы, што яму ніхто не перашкаджае займацца дэпутацкай дзейнасцю, Шушкевіч выказаў цвёрды намер і далей працаваць на карысць Беларусі.

Якаў ЯСЭПКІН.

### Супраць тэрарызму

*У суправаджэнні ўзмоцненых нарадаў сіл бяспекі больш за 50.000 чалавек выйшла ў аўторак на вуліцы алжырскай сталіцы на грандыёзную маніфестацыю.*

Людзі выказвалі пратэст супраць тэрарызму. Ініцыятарамі выступленняў сталі жаночыя арганізацыі. Іх падтрымалі рабочыя прафсаюзы і саюз прадпрымальнікаў, якія ў сваю чаргу заклікалі да спынення работы і правядзення акцыі памяці "ахвяр тэрарызму".

### Банкіры ўзбройваюцца... вопытам

*Прыадкрыць сакрэты майстэрства замежных банкіраў — мэта чатырохдзённага семінара "Камерцыйная банкаўская справа", які пачаў работу ў Мінску. Ён арганізаваны Гандлёва-прамысловай палатай Беларусі сумесна з Дрэзднер-банкам і Нацыянальным банкам Парыжа.*

Гэтыя замежныя фінансавыя ўстановы карыстаюцца вялікім аўтарытэтам у многіх краінах свету. Напрыклад, толькі Дрэзднер-банк стварыў каля 1800 сваіх філіялаў у розных кутках зямлі і мае магчымасць праводзіць неабходныя грашовыя аперацыі кругласутачна. А супрацоўніцтва нашай рэспублікі з ФРГ і Францыяй пастаянна пашыраецца. Толькі з Германіяй тавараабарот у мінулым годзе павялічыўся амаль на 60 працэнтаў. Таму і невыпадковая цікавасць да гэтага мерапрыемства. У ім прымаюць удзел супрацоўнікі Нацыянальнага і 27 камерцыйных банкаў Беларусі, а таксама міжнароднага банка "Карпаты" з Львова.

БЕЛІНФАРМ.

### Амерыканак не спалохалі маразы

*Хэзэ Рычардсан і Наталі Кранк — дзве школьніцы з амерыканскага штата Фларыда — сталі на месяц вучаніцамі гродзенскай гімназіі.*

Дзяўчаты трапілі ў абласны цэнтр па праграме абмену вучнямі, якая ажыццяўляецца асацыяцыяй пароднёных гарадоў ЗША і былога СССР.

Хэзэ за гэты час азнаёмілася з сістэмай навучання ў нашых школах. Наталі ж цікавілася гісторыяй і культурай Беларусі. Гродзенскія сябры пастараліся паказаць гасцям усё найбольш цікавае: абласны гісторыка-археалагічны і Рэспубліканскі музей гісторыі рэлігіі, дом народнай творчасці, майстэрні мастакоў, самадзейныя калектывы. Нават незвычайныя для амерыканак маразы (пад час адлёту з Фларыды тэрмометр паказваў 25° цяпла) не змаглі азмрочыць цёплыню гродзенскіх сустрэч.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Моладзь Францыі пратэстуе

*Тысячы навучэнцаў і студэнтаў Францыі зноў правялі акцыі пратэсту супраць кабальнага рашэння ўлад і прамыславікоў аб "выпрабавальным тэрміне" пры прыёме моладзі на работу.*

Пасля разлютаванага супрацьстаяння моладзі і паліцыі ў панядзелак міністр замежных спраў Францыі Шарль Паскуа заявіў: "Кожны атрымае па заслугах". Дваццаць паліцэйскіх атрымалі раненні, каля пяцідзесяці юнакоў арыштавана. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, адбылася сустрэча прадстаўнікоў кампаній і міністра працы. Аб якіх-небудзь дамоўленасцях не паведамляецца.

### Даляры, шышкі...

*Цяжкія настaлі часы. Прымушаюць яны "круціцца" не толькі асобных грамадзян, але і цэлыя арганізацыі. На чым толькі не зарабляюць зараз грошы!*

Віцебскае лесагаспадарчае аб'яднанне, напрыклад, зарабляе валюту на... шышках. А дакладней — на яловым насенні. Па дамоўленасці са шведскім дэпартаментам "Паўднёвы насенны фонд" аб'яднанне рэгулярна пастаўляе за мяжу партыі насення коштам па 160 "зялёненькіх" за кілаграм. Чарговая пастаўка склала дзве тоны. Грошы, якія будуць атрыманы, мяркуюць выкарыстаць для развіцця лясной гаспадаркі Віцебскай вобласці.

Мікола БАГАДЗЯЖ.

### ...І новыя лясы

*22,5 тысячы гектараў новых лясоў павінны закласці сёлета лесаводы рэспублікі.*

Новыя пасадкі размесяцца на месцах былых пажараў не менш чым на 3000 гектарах. У асноўным гэта — сасняккі, часткова — дуб і бяроза.

Каб правесці пасадкі ў лепшыя тэрміны, а яны цяпер з-за недахопу паліва будуць праводзіцца ўручную, у лесагадавальніках Міністэрства лясной гаспадаркі падрыхтавана 180 мільёнаў штук саджанцаў. Першымі прыступяць да лесапасадачных работ у Гомельскай, Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

А.СЦЯПАНАЎ.

### Курсы валют на 23 сакавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 11200(11424) | 11650 | 6600(6732) | 6890 |
| "Прыор" | 10500 | 11000 | 6200 | 6500 |
| "Белбізнесбанк" | 10000 | 12000 | 5900 | 7100 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

ЭКАНОМІКА: ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## Выратаванне — у парытэце цэн

□ Андрусь ДЫЛЮК

Ад кіраўнікоў урада апошнім часам можна было пачуць выказванні аб неабходнасці павелічэння колькасці тавараў (у шырокім сэнсе), аб кантролі за ростам цэн, што азначае — проста зафіксаваць іх.

Возьмем апошнія падзеі з павелічэннем цаны на хлеб, потым скасаваннем яе і пакараннем "вінаватых" міністраў. У выніку неабдуманага паніжэння цэн хлебазаводы панеслі шматмільённыя страты, і ў рэшце рэшт давялося вяртацца на кругі свае. Уся віна павялічыўшых цэны кіраўнікоў у тым, што яны не ўлічылі каньюнктуры на палітычным небасхіле.

Нідзе ў свеце няма чалавека, які б быў задаволены павышэннем цэн, і абурэнне, якое выказваюць суайчыннікі, цалкам лагічнае. Таму ўрад, спрабуючы неяк зменшыць незадаволенасць людзей, стрымлівае рост цэн на некаторыя прадукты харчавання. Але ёсць гора-эканамісты, якія нават апраўдваюць гэткую палітыку, тлумачачы, што на Захадзе таксама існуюць датацыі вытворцам сельскагаспадарчай прадукцыі.

Сапраўды, існуюць. Аднак там імкнуцца ўтрымліваць цэны на высокім узроўні; не дапускаюць на рынак імпартную сельскагаспадарчую прадукцыю, якая каштуе ніжэй за аналагічную айчынную, каб перасцерагчы ад банкруцтва сваіх фермераў. Ім нават плацяць грошы за тое, каб не засявалі пэўныя дзялянкі поля і збіралі прадукцыі меней, бо гэта дасць магчымасць знізіць рызыку перавытворчасці, якая, як вядома, вядзе да зніжэння цаны на рынку.

У нас жа ўсё робіцца наадварот. Цэны трымаюць на нізкім узроўні, які не пакрывае нават сабекошту. Не ведаю, куды глядзіць урад, але існуючы механізм цэнаўтварэння аб'ектыўна вядзе да згортвання вытворчасці. Склалася сітуацыя, калі некаторым калгасам больш зручна выліць малако свінням, чым везці на перапрацоўчы завод, бо бензіну зрасходуецца куды больш, чым атрымаеш выручкі.

Так, ёсць дзяржаўныя датацыі вытворцам на пакрыццё розніцы паміж сабекоштам і цаной прадукцыі. Датацыі ідуць з бюджэту, а ў бюджэт сродкі, у сваю чаргу, паступаюць у выглядзе падаткаў, якія закладзены ў кошт любога тавару, які мы купляем.

А цяпер уявіце сітуацыю: нейкі калгас здаў болей малака, чым планавалася (ну, скажам, нечакана сяляне-ўдарнікі павысілі надоі). Малаказавод перапрацаваў. Здаецца, што тут кепскага? Наадварот, трэба радавацца — можна болей малака спажыць, можна лішкі прадаць суседзям па СНД. Але з-за нашай эканамічнай сістэмы не да радасці гаспадарнікам.

Для прастаты разліку максімальна спросцім схему. Вытворца павінен быў паставіць 10 кілаграмаў малака, сабекошт якога, напрыклад, 300 рублёў за кілаграм. Прадаць у краме яго павінны былі па 150 рублёў за кілаграм. Селянін-вытворца павінен быў атрымаць (не будзем улічваць гандлёвыя надбаўкі) 1500 рублёў (10х150). Ён жа затраціў 3000 рублёў. Дзяржава пакрывае яму выдаткі і дае датацыю ў суме 1500 рублёў. Вытворца атрымае зарплату і не застанецца ў пройгрышы.

А ўявіце сабе, што вытворца надаіў не 10, а 15 кілаграмаў. Яго затраты складуць 15х300=4500 рублёў. Гандаль яму верне 15х150=2250 рублёў. А дзяржава выдзеліць толькі 1500 (павелічэнне на 5 літраў не планавалася, адкуль узяць грошы?). Такім чынам, страты складуць 4500-(2250+1500)=750 рублёў, альбо 150 рублёў на кожны звышпланавы кілаграм.

Адсюль рабіце выснову, шаноўныя чытачы, ці будзе ў нас павышацца прадукцыйнасць працы і аб'ём вытворчасці пры дзеючым механізме цэнаўтварэння.

Зараз калгасы не маюць грошай і наўрад ці будуць іх мець. Каб не застацца без хлеба, урад вымушаны кінуць на дапамогу ім 2,8 мільёна рублёў. Гэта прывядзе да таго, што нашыя "зайцы" будуць мець курс у суадносінах да расійскага рубля як мінімум 8:1. Я ўжо не кажу пра падваенне тэмпаў інфляцыі.

Куды менш шкоды будзе нанесена эканоміцы, калі цэны будуць адпушчаны на ўсе прадукты харчавання. Так, гэта ўдарыць па насельніцтву. Аднак дасць магчымасць калгасам жыць за кошт уласнай працы, а не за кошт дзяржаўных льготных крэдытаў. Гэта выявіць, хто сапраўды здольны гаспадарыць на зямлі, а хто толькі праядаць крэдыты. Ні ў адной краіне свету столькі сродкаў у сельскую гаспадарку не накіроўваецца, як у нас. Аднак эфект мізэрны, бо ў нас ненармальная сістэма гаспадарання, якая нам засталася ў спадчыну ад сацыялізму. Напачатку мы абрабоўваем вёску праз несправядлівы механізм цэнаўтварэння, а пасля даём ёй льготныя крэдыты.

У рэспубліцы даўно вядуцца размовы аб неабходнасці ўсталяваць парытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю. Але як яго ўсталяваць, калі мы трымаем цэны, душым сельскую гаспадарку? Усё ў нас праводзіцца за кошт вёскі і на шкоду ёй: і калектывізацыя, і індустрыялізацыя. А цяпер за кошт вёскі спрабуем перайсці да рынку.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

### "Еўраньюс"

#### АНК і ІНКАТА дамаўляюцца

*Дэлегацыя Афрыканскага нацыянальнага кангрэса (АНК) і прадстаўнікі арганізацыі ІНКАТА сустрэліся ў Йаханесбургу для выпрацоўкі апошніх дэталей у працэсе мірных перамоў.*

Лідэры партый Мандэла і Бутэлезі ў прынцыпе дамовіліся аб пачатку перамоў яшчэ 1 сакавіка. Цяпер абмяркоўваюцца пытанні канстытуцыйнага рашэння, якое неабходна прыняць. Перамовы ўскладнілі звесткі аб ахвярах у "чорным" прадмесці горада Дурбан у выніку сутыкненняў прыхільнікаў АНК і ІНКАТЫ.

#### Бутрас Галі прыняў рашэнне

*Пасля некалькіх тыдняў ваганняў Генеральны сакратар ААН Бутрас Галі ўрэшце абвясціў аб тым, што Турцыя можа ўдзельнічаць у міратворчых аперацыях у былой Югаславіі.*

Турцыя атрымала гэту магчымасць па гістарычных прычынах. У XV стагоддзі Боснія і Герцагавіна ўваходзілі ў склад Асманскай імперыі. Грэцыя не прамарудзіла з рэакцыяй на рашэнне Б.Галі. Афіны паведамілі, што выступаюць "супраць любога ўмяшання "блакітных касак" на Балканах і ў краінах былой Югаславіі".

### "Суперчэннэл"

#### Смерць Уолтэра Ланца

*Уолтэр Ланц, піянер мультыплікацыі і стваральнік славутага мультыплікацыйнага героя Вудзі Вудпекера, памёр ад сардэчнай недастатковасці ва ўзросце 93 гадоў.*

Акрамя Вудпекера, вялікі мультыплікатар, які пачаў сваю кар'еру ў пачатку 40-х гадоў, стварыў цэлую плеяду маляваных "славутасцей" — Чылі Уілі, труса Освальда, жука Кукі і іншых.

#### Катастрофа ў цэнтральнай Сібіры

*Усе пасажыры загінулі ў выніку катастрофы, якая адбылася ў Цэнтральнай Сібіры з самалётам расійскай авіякампаніі "Аэрафлот".*

Паводле звестак агенцтва "Ітар-ТАСС", у момант падзення машына ўзарвалася. Самалёт ляцеў з Масквы ў Ганконг.

### "TV-5"

#### Эксперты вывучаюць умовы

*Згодна з паведамленнямі афіцыйных крыніц, амерыканскія і паўднёвакарэйскія эксперты пачалі вывучаць умовы размяшчэння ракет "Пэтрыёт" на базах ЗША ў Паўднёвай Карэі.*

Абодва бакі дамовіліся аб размяшчэнні 36 ракет гэтага тыпу ў наступным месяцы, паколькі разыходжанні паміж суседнімі Карэямі "становяцца паграджальнымі". Пхеньян усё яшчэ не дае дазволу інспектарам МАГАТЭ на правядзенне праверкі сваіх ядзерных установак. Як паведамлялася, ААН падрыхтавала праект рэзалюцыі па санкцыях супраць Паўночнай Карэі. Паводле апошніх звестак, Кітай заявіў, што ён не збіраецца абмяркоўваць гэтае пытанне.

#### У абарону сваіх правоў

*Працягваецца забастоўка іспанскіх рабочых, якія пратэстуюць супраць рашэння кіраўніцтва аўтаканцэрна "Сантана Мотарс" аб звальненні паловы рабочага персаналу.*

### "Уорлднэт"

У 26 гарадах Іспаніі закрыты магазіны, аўтамабільны і чыгуначны транспарт не працуе.

#### Пражскія рабочыя забаставалі

*Упершыню пасля падзення камуністычнага рэжыму ў былой Чэха-Славакіі ў Празе адбылася шматтысячная забастоўка.*

20.000 людзей, якія сабраліся ў цэнтры сталіцы, крытыкавалі эканамічную палітыку ўрада. Чэшскія рабочыя (іх сярэдні заробак у месяц складае 320 марак) атрымліваюць грошай менш, чым іх калегі ў Венгрыі і Польшчы.

(Працяг на 3-й стар.).

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар Я.ЯСЭПКІН.*

Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-52

## Увага – банкаўскай справе

Развіццё рыначных адносін прад'яўляе новыя, больш высокія патрабаванні да банкаўскай справы, метадаў работы фінансістаў і тэхнікі правядзення розных аперацый. Таму сярод прыярытэтных напрамкаў дзейнасці Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі вызначаны блок пытанняў, звязаных з фінансамі, бухгалтарскім улікам і справаздачнасцю.

У прыватнасці, прадугледжана правядзенне экспертызы законапраектаў у галіне фінансава-крэдытнай сістэмы, бухгалтарскага ўліку і інвестыцыйнай дзейнасці, якія ўносяцца на разгляд Вярхоўнага Савета, а таксама распрацоўка прапаноў па павышэнню эфектыўнасці прымаемых законаў.

Наладжана сумесная работа з рэспубліканскай Асацыяцыяй бухгалтараў па ўдасканаленню бухгалтарскага ўліку на аснове прынцыпаў сусветнай практыкі і Закона "Аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці".

У практыку ўвайшла арганізацыя дзелавых сустрэч, канферэнцый, "круглых сталоў" па праблемах рыначнай эканомікі, фінансава-крэдытнай, падатковай і інвестыцыйнай палітыкі з удзелам вядучых спецыялістаў, прадстаўнікоў бізнесу, дзяржаўных структур.

Падкрэслім і тое, што прадпрыемствам, арганізацыям, банкам з боку навукоўцаў аказваецца дапамога ў складанні вучэбных метадычных праграм і фарміраванні груп спецыялістаў у галіне фінансаў, крэдытна-грашовых адносін, бухгалтарскага ўліку і інвестыцыйнай дзейнасці, накіроўваемых для навучання і перападрыхтоўкі за межы Беларусі.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

## "Рацыянальны дом" для беларуса

У Дзяржбудзе Беларусі адбылася прэзентацыя праграмы жыллёвага будаўніцтва, прадстаўленай аб'яднаннем "Рацыянальны дом". Ёю прадугледжваюцца зусім новыя падыходы да вырашэння паранейшаму вострай для нас праблемы. Над праграмай працавалі многія спецыялісты з улікам вопыту будаўніцтва жылля ў Канадзе, Нарвегіі і іншых краінах. Апорай для яе ажыццяўлення будуць цяпер прадпрымальніцкія фірмы і будаўнічыя арганізацыі рэспублікі.

"Каля 30 працэнтаў агульнага аб'ёму жыллёвага будаўніцтва ў рэспубліцы адводзіцца індывідуальнаму будаўніцтву, — адзначыў на прэзентацыі віцэ-прэзідэнт карпарацыі "Белбуд" Анатоль Шаціла. — Таму новай праграмай ставіцца задача забяспечыць беларускага забудоўшчыка поўным комплексам паслуг — ад кансультацыі да здачы дома "пад ключ". Будаўніцтва павінна грунтавацца перш за ўсё на рацыянальнай аснове, весціся па танных і аптымальных тэхналогіях, з улікам пазабюджэтнага фінансавання праектаў, выбар якіх дыктуе рынак."

## Дапамагаюць стаць на ногі

200 мільёнаў нямецкіх марак, атрыманых рэспублікай дзякуючы адкрытай крэдытнай лініі з Германіі Ака-Гермес, дапамаглі "стаць на ногі" сямі беларускім прадпрыемствам. На прэс-канферэнцыі, прысвечанай падвядзенню вынікаў трохгадовай работы ў рэспубліцы нямецкай фірмы "Іст-Вест Кансалтынг Штэфенс", было заяўлена, што ў 1991-1993 гадах дзякуючы дзейнасці гэтай фірмы прадпрыемствам Беларусі былі выдзелены крэдыты пад рэканструкцыю Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода і Барысаўскага завода пластмасавых вырабаў, пастаўку абсталявання для ВА "Хімвалакно" ў Гродна і Светлагорску, для Рудзенскага завода пластмасавых вырабаў і Гродзенскага завода карданных валоў, тэкстыльнага абсталявання для Бабруйскага прадпрыемства па выпуску тавараў народнага спажывання.

Акрамя пералічаных праектаў, падпісаны ўжо кантракты па фінансаванню і пастаўцы рознага абсталявання, сыравіны і матэрыялаў пад германскі крэдыт у іншых галінах прамысловасці і сельскай гаспадаркі. У тым ліку 20 мільёнаў нямецкіх марак пойдзе на пастаўку ў Гродна абсталявання для вытворчасці зубной пасты, на вытворчасць аднаразовых шпрыцаў — 39 мільёнаў, на пастаўку абсталявання для перапрацоўкі бульбы і агародніны — 29 мільёнаў, на закупку мясаперапрацоўчага абсталявання для Мазырскага мяснога цэнтра — 11 мільёнаў.

**БЕЛІНФАРМ.**

БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук

# ЛЁС БЕЛАРУСА

## II. Дзяржаўна-палітычны аспект нацыянальнай самасвядомасці

Абвяшчэнне 25 сакавіка 1918 г. незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і ўтварэнне 1 студзеня 1919 г. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі па вядомых прычынах вельмі мала паспрыялі паглыбленню кансалідацыйных працэсаў у складзе беларускай нацыі, а апошняе дзяржаўнае фарміраванне на працягу доўгага часу нават садзейнічала паслабленню такіх працэсаў. Здавалася, што з прыняццем 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь у нас складуцца самыя спрыяльныя ўмовы для стрымання ўсіх разбуральных тэндэнцый у нацыянальным развіцці беларускага народа, нарэшце знімецца з парадку дня ледзь не спаконвечнае пытанне аб нашым выжыванні як самабытнай этнічнай супольнасці людзей. Надзеі не спраўдзіліся. І гэтаму ёсць тлумачэнне. Ва ўсіх дзяржаўных структурах да ўлады прыйшлі людзі, якія дзесяткамі гадоў цягнулі беларусаў у светлую камуністычную будучыню, упарта адвучваючы іх ад гістарычнай спадчыны, уласных духоўных традыцый, мовы, падмацоўваючы ўсё гэта сваім асабістым прыкладам. А іх прыклад і сапраўды быў вельмі пераканаўчым, дзейсным, бо ніхто з беларусаў не быў такім дэнацыяналізаваным, як сама партыйная і дзяржаўная наменклатура. Гэтага ад яе патрабавала Масква, дзе выпрацоўвалася ўся палітыка па рэгуляванню міжнацыянальных адносін у СССР. Нідзе, як у Беларусі, з такой паслядоўнасцю не праводзілася яна. Таму патрабаваць ці спадзявацца на карэнныя перамены ў поглядах абсалютнай большасці сучасных дзяржаўных дзеячаў Беларусі на нацыянальнае пытанне зусім не лагічна. Патрэбна змена пакаленняў дзяржаўных асобаў з тым, каб да ўлады прыйшлі іншыя людзі.

Цяпер у нас зусім неаптымальная нацыянальная структура органаў дзяржаўнай улады і кіравання, на што ніяк не рэагуюць адпаведныя структуры. Нацыя, якая паставіла перад сабой задачу адраджэння, павінна ведаць, хто кіруе дзяржавай, міністэрствамі і ведамствамі, арміяй, прадпрыемствамі і ўстановамі. Адсутнасць пачуцця сапраўднага гаспадара ў роднай хаце, шматгадовая мэтанакіраваная палітыка Цэнтра поліэтнічнай дзяржавы не даць нацыянальным кадрам у сваіх рэспубліках стаць магутнай сілай кансалідацыі этнасу на ўсіх важнейшых участках палітычнага жыцця прывялі да таго, што беларусы і раней і зараз займаюць тут далёка не адпаведнае ім месца, калі зыходзіць з іх удзельнай вагі ў агульнай колькасці насельніцтва. Згодна з Усесаюзным перапісам насельніцтва 1989 года, з агульнага ліку занятых у народнай гаспадарцы беларусаў у органах дзяржаўнага кіравання працавалі толькі 3,3 працэнта, у той час як у рускіх, што жылі на Беларусі, гэты паказчык раўняўся 7,8 працэнта. Так ужо заведзена, якая нацыя ў больш шырокіх маштабах далучана да дзейнасці органаў кіравання, тая мае лепшыя пазіцыі і ў іншых, звычайна найбольш прэстыжных сферах дзейнасці чалавека. Беларусы не сталі выключэннем з гэтай агульнай заканамернасці.

Нелагічна, негуманна, што ўдзельная вага кіраўнікоў-небеларусаў пераважае долю нацыянальных меншасцей рэспублікі ў агульнай колькасці яе жыхароў. Такая практыка набывае асабліва шкодны характар, калі кіруючая асоба з ліку некарэннага насельніцтва ганьбуе яго нацыянальна-культурныя традыцыі, не валодае і не імкнецца авалодаць, ужываць яго родную мову ў жыцці свайго калектыву. Сёння мы вельмі мала маем кіраўнікоў-небеларусаў, практычная дзейнасць якіх адпавядала б патрабаванням нашага сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Вызваленне такіх кіраўнікоў з адказных пасад і замена іх тымі, хто можа зрушыць з месца вырашэнне гэтай гістарычнай важнасці праблемы, павінна разглядацца як зусім натуральная і заканамерная з'ява, бо інакш павіснуць у паветры ўсе нашыя планы дасягнення рэальнай дзяржаўнай суверэннасці. Тут нам трэба сёе-тое пераняць з нормаў Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года, у адпаведнасці з якім забаранялася прызначаць на дзяржаўныя пасады і надзяляць зямлёй "чужаземцаў і заграніхнікаў", не выключаючы нават і палякаў, з якімі беларусы сумесна жылі ў адной дзяржаве — Рэчы Паспалітай. Правільна разумеў значэнне нацыянальнага фактару ў фарміраванні органаў дзяржаўнай улады адзін з выдатных дзеячаў беларускага Адраджэння Антон Луцкевіч, што добра відаць з яго наступных слоў: "Будаваць незалежную Беларусь павінны самі беларусы — і то беларусы нацыянальна свядомыя, беларусы, якія не на словах толькі, а на самай справе — усім сваім жыццём, кожным сваім крокам умацоўваюць беларушчыну. Мы павінны цяпер больш, чым калі, сцерагчыся так званых "тоже белорусов", якія, называючы сябе беларусамі, маюць у душы толькі пагарду да свае мовы, да сваіх братоў сярмяжных, да ўсяго роднага беларускага". І ў афіцыйна абвешчанай у ліпені 1924 г. палітыцы беларусізацыі адной з найважнейшых яе складовых частак прызнавалася "вылучэнне беларусаў на партыйную, савецкую, прафесіянальную і грамадскую працу".

У час, калі так важна ўсе адказныя, вырашальныя для лёсу народа пасады ўкамплектаваць этнічна самасвядомымі беларусамі, бо ніхто так, як яны, не зацікаўлены ў нацыянальна-культурным Адраджэнні Рэспублікі Беларусь, бо ніхто так, як яны, не будзе самаахвярна працаваць дзеля ажыццяўлення гэтай гістарычнай ідэі, у нас раптам вырашылі выкасаваць з усіх асабовых дакументаў, у тым ліку і з пашпарта, графу нацыянальнасць, што з цягам часу абцяжарыць правядзенне правільнай нацыянальнай палітыкі ў фарміраванні корпуса кіруючых кадраў у розных сферах дзяржаўна-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця.

Дзіўная рэч: калі беларусаў апалячвалі і русіфікавалі, у іх асабовых дакументах абавязкова прысутнічала графа аб нацыянальнасці. Беларус ганарыўся правам мець такую графу ў дакуменце, хоць яе вельмі ўмела выкарыстоўвалі, каб прымусіць яго запісацца палякам ці рускім. Часам і згаджаўся. Такая здрада нацыянальнаму найчасцей выклікалася пэўнымі сацыяльнымі выгадамі для беларуса: паступіць звычайна па-за межамі сваёй Айчыны на вучобу ў прэстыжную навучальную ўстанову, заняць высокааплатную пасаду і г.д. Цяпер жа, калі трэба мець такую графу ў пашпарце, каб замацаваць у душы і сэрцы беларуса і гонар і адказнасць за лёс сваёй нацыі, яна не ўпамінаецца ў асабістых дакументах. Ці не баіцца хтосьці, каб беларус і па пашпарту, і па крыві, і па самасвядомасці не запатрабаваў на карэннай зямлі сваіх продкаў забеспячэння яму ў поўным аб'ёме права быць гаспадаром? Відаць, палічылі за лепшае змяшаць усё ў адну кучу, каб не даведацца, хто тут гаспадар, а хто, магчыма, выпадкова апынуўся побач з ім і ў любы зручны момант гатовы змяніць месца пражывання, вярнуцца на сваю радзіму. Не выклікае сумнення, што выключэнне з усіх асабістых дакументаў, у тым ліку і з пашпарта, графы "нацыянальнасць" можа стаць прычынай таго, што ў дзяржаўныя, адміністрацыйна-гаспадарчыя органы трапяць зусім выпадковыя людзі, для якіх наша нацыянальна-культурнае Адраджэнне ёсць усяго толькі пустая фармальнасць, і яму яны пры кожным зручным выпадку будуць ставіць палкі ў колы. Спасылка, што графа "нацыянальнасць" адсутнічае ў пашпартах многіх краін, не можа брацца пад увагу, таму што Беларусь непараўнальна з імі па ступені завершанасці працэсу этнічнай кансалідацыі карэннага насельніцтва. Затое там, дзе камусьці выгадна адступіць ад сусветнага вопыту, у нас гэта робіцца з неверагоднай лёгкасцю, і таму ў новым пашпарце тэксты, акрамя беларускай, англійскай моваў, яшчэ будуць пісацца і па-руску.

Сёння кожны палітык, кіраўнік вытворчасці, працоўнага калектыву нават самага нізкага рангу, павінен быць паўнейшым і чысцейшым увасабленнем беларускай нацыянальнай ідэі. Датычыць гэта і тых, хто не з'яўляецца беларусам па нацыянальнасці, таму, што на тэрыторыі нашай дзяржавы павінна скрозь і ўсюды непадзельна панаваць толькі беларуская ідэя, бо гэта практыкуецца ва ўсіх унітарных нацыянальных дзяржавах. На нашай зямлі нішто не можа быць супрацьпастаўлена беларускай ідэі, бо толькі яна адна мае тут, на сваёй этнічнай тэрыторыі, а не дзе-небудзь у іншым месцы, права на паўнакроўнае жыццё. Усялякае імкненне на такі ж статус уняць на беларускай зямлі рускую, польскую, украінскую, літоўскую ці якой-небудзь іншай нацыянальнай групы ідэю толькі ўскладніць ці зробіць немагчымым забяспечваць нармальнае развіццё беларускага народа. Вышэйпералічаныя нацыянальныя групы могуць прэтэндаваць у нас на тое, на што прэтэндуюць беларусы, жывучы ў Расійскай Федэрацыі, Польшчы, на Украіне, у Літве ці ў іншых краінах. Усё, што датычыць вырашэння нацыянальнага пытання на Беларусі, павінна падлягаць дзяржаўнаму рэгуляванню, а не базіравацца на моцы, распаўсюджанні, часта ў аснове сваёй, стыхійных тых ці іншых небеларускіх нацыянальна-культурных рухаў, якія, як займеюць істотную падтрымку ад краін, дзе жыве асноўная частка насельніцтва гэтых рухаў, могуць прычыніць вельмі вялікую шкоду беларускай ідэі. Калі ж дзяржаўная ўлада Рэспублікі Беларусь ухіліцца ад рэгулявання міжнацыянальных адносін, дык пры нашай зацюканай нацыянальнай самасвядомасці, слабасці распаўсюджання беларускай культуры і мовы на іх этнічнай тэрыторыі ў нас не застанецца ніякай гарантыі для нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Дзяржава павінна смела і адкрыта заявіць, што беларускі народ і зараз знаходзіцца на мяжы поўнага нацыянальна-культурнага высільвання, клінічнай смерці не ў моц дзеяння якіхсьці аб'ектыўных законаў развіцця чалавечага грамадства, а толькі ў выніку шматвяковай паланізацыі і русіфікацыі. У гэтай сітуацыі планамернае абмежаванне самой дзяржавай уплыву рускай культуры і мовы (спецыяльна не называю польскай таму, што пасляканстрычніцкая русіфікацыя істотна звузіла і іх сферу дзеяння на тэрыторыі Беларусі) павінна разглядацца ў якасці адзінай надзейнай гарантыі стварэння аптымальных умоў для функцыяніравання беларускай культуры і мовы на вызначаным ім самім лёсам зямлі. І зрабіць такое будзе нялёгка, прычым у значнай меры з-за супраціўлення людзей, што працуюць у органах дзяржаўнай улады, у розных сферах кіравання вытворчасцю і грамадскімі справамі.

Трагічна і ў той жа час неяк агідна, што нам і па сённяшні дзень усё яшчэ ніяк не ўдаецца пераадолець праклятую звычку, якая цягнецца ажно з сярэднявечча, калі заможныя, далучаныя да дзяржаўнай улады асобы імкнуліся размаўляць не на той мове, якой карыстаўся народ. У першым выпадку яна была польскай альбо лацінскай, у другім — рускай. Пазней такія прывілеяваныя, уплывовыя станы беларускага этнасу пацягнуліся з пэўнай сацыяльнай выгадай да рускай мовы, якой не жадаюць адцурацца і іх цяперашнія спадкаемцы, не разумеючы ці не жадаючы зразумець, які гэтым самым дрэнны, заганны прыклад даюць масам, садзейнічаючы іх канчатковай, беззваротнай русіфікацыі, у чым зусім не зацікаўлена ўся супольнасць славянскіх народаў. Неразуменне большасцю прадстаўнікоў дзяржаўнай эліты згубнасці падобных адносін да асноўнага духоўнага багацця беларусаў — нацыянальнай мовы паказвае ўсю немэтазгоднасць з пазіцый славянскай супольнасці выкарыстоўваць такіх асобаў на высокіх, адказных пасадах.

Па той прычыне, што вельмі многія беларусы і раней, і цяпер не дужа сябе добра пачуваюць за самабытны этнас, яны як след не ўсвядомілі, што эпахальнага адбылося ў іх нацыянальным жыцці 27 ліпеня 1990 года. Большасць з нас так па-рабску змірылася з думкай абавязковага падпарадкавання камусьці з моцных суседзяў, што набыццё дзяржаўнага суверэнітэту не стала для яе сапраўднай радасцю, вялікім, гістарычным святам. А многія ж народы, у прыватнасці балгары, да гэтай запаветнай мэты прыйшлі праз стагоддзі крывапралітнай барацьбы і на атрыманую перамогу глядзелі, як на дар божы. Кожнае новае пакаленне балгараў набліжалася да гэтай мэты з больш высокай ступенню нацыянальнай самасвядомасці, чым яго папярэднікі. Беларусы ж, наадварот, прыйшлі да дзяржаўнай незалежнасці з моцна – хворай нацыянальнай псіхалогіяй і ўспрынялі дараваную шчаслівым лёсам волю без асаблівага энтузіязму. Палітыкі, інтэлігентныя колы нашага грамадства, бачачы індыферэнтнасць нашага народа да такіх эпахальных перамен у яго жыцці, мала, вельмі мала што зрабілі, каб дапамагчы народу зразумець, што ж такога рэвалюцыйнага адбылося ў яго жыцці. Гісторыкі, якія некалі будуць аналізаваць звязаныя з атрыманнем Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці праблемы, напэўна ж, адзначаць, з якой абыякавасцю ўлады паставіліся да гэтай найвыдатнейшай падзеі ў лёсе нашага краю. Не было ні ў 1990, ні ў 1991 гг. масавых дэманстрацый і парадаў, мітынгаў і святочных прадстаўленняў, і аналітыкі заўважаць, што такім маўчаннем уладу маючыя асобы абышлі ў нас свята незалежнасці дзяржавы толькі таму, каб не даць людзям адчуць сябе яе сапраўднымі гаспадарамі. Схамянуліся толькі ў 1992 годзе, дый то не пастараліся свята нацыянальнай незалежнасці ператварыць ва ўсенароднае. Усіх гэтых хібаў не назіралася б, каб нашай дзяржавай кіравалі людзі з высокім нацыянальным патэнцыялам, цанілі гісторыю народа, у найлепшых сынах і дочках якога не памірала ідэя суверэннай дзяржавы нават у самыя цяжкія часы. Са сказанага вынікае, наколькі далёка зайшла дэфармацыя нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці нават у людзей, якія займаюць высокія месцы ў розных сферах палітычнага жыцця.

Ва ўсіх цывілізаваных, суверэнных краінах дзяржаўныя і грамадска-палітычныя дзеячы ўвасабляюць дух нацыі, сувымяраюць кожны свой крок з яе інтарэсамі. Сваім найпершым абавязкам яны лічаць: умець прыгожа гаварыць на сваёй нацыянальнай дзяржаўнай мове, чым толькі садзейнічаюць узвышэнню яе прэстыжнасці ў грамадстве. З другога боку валоданне ўсімі багаццямі нацыянальнай мовы дапамагае кожнаму дзяржаўнаму дзеячу падтрымліваць на належным узроўні свой аўтарытэт сярод суайчыннікаў. Пасляваенная Еўропа не ведае прыкладу, каб у якой-небудзь краіне першыя дзяржаўныя асобы не валодалі і не карысталіся роднай мовай свайго народа, бо пры ўласцівай сапраўдным еўрапейцам нацыянальнай самасвядомасці моўная дасведчанасць такога дзеяча лічыцца адным з галоўных фактараў знаходжання яго ў верхніх эшалонах палітычнай улады.

Усяго гэтага, само сабой зразумелага для людзей з нармальнай нацыянальнай самасвядомасцю, вельмі нестае прадстаўнікам палітычных колаў Беларусі. Сярод іх пераважаюць асобы, якія не толькі не валодаюць дзяржаўнай беларускай мовай, але і гатовыя ісці на ўсё, каб толькі не даць ёй магчымасці замацавацца ў службовым справаводстве, аўдыторыях і класах усіх тыпаў навучальных устаноў, у навуцы, культуры і іншых сферах жыцця. Пераважная большасць нашай дзяржаўнай эліты валодае толькі рускай мовай. Многія народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь з неверагоднай настойлівасцю імкнуліся надаць ёй статус афіцыйнай у Беларусі. Гэта супярэчыць усім законам нармальнага нацыянальнага развіцця любога этнасу, не выключаючы і беларусаў. Занятыя ў органах дзяржаўнай улады і кіравання людзі не маюць права забывацца, што Беларусі, нават стаўшай суверэннай, зусім не гарантаваны поўны спакой за культурна-моўную асіміляцыю яе карэннага насельніцтва. Пражываючы ў цэнтры Еўропы, яна цяпер пасля пераўтварэння Беларусі ў незалежную краіну будзе ўступаць у яшчэ больш шырокія сувязі з іншымі народамі, што пры слабых пазіцыях беларускай культуры і мовы можа вельмі лёгка зрабіць іх ахвярай асіміляцыі цывілізаваных этнасаў.

Мы вельмі часта занадта пераацэньваем геапалітычнае становішча Беларусі і гатовыя звязваць з ім будучае яе нацыянальна-культурнага Адраджэння. Я больш стрымана стаўлюся да гэтага фактару. Хвала Богу, зараз ужо міне паўстагоддзе, як на Беларусі не льецца кроў, не прыносяцца ў ахвяру чалавечыя жыцці. Затое мы з прычыны свайго геапалітычнага становішча безупынна бяднелі ў плане нацыянальна-духоўнага развіцця, асімляваліся ў выніку мэтанакіраванай палітыкі суседніх блізкароднасных па паходжанню, культуры, мове славянскіх народаў. Гэта лішні раз даказвае, што ў галіне культуры ў нас ніяк недапушчальна стыхійнасць, а, наадварот, усюды і скрозь павінна адчувацца свядомая рэгулюючая роля дзяржавы, каб у любы час падтрымліваўся прыярытэт нацыянальнага ў духоўным жыцці краіны. Не зусім прыемна і пажадана гаварыць, але трэба ведаць праўду, якой бы яна горкай ні была: у агляднай перспектыве культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў пагражаюць не англічане, немцы ці французы, а найперш рускія, затым палякі і не выключана, што і ўкраінцы.

Нашым уладным структурам час карэнным чынам змяніць палітыку дзяржаўнага фінансавання культурна-асветных мерапрыемстваў, пры якой у сотні ці тысячы разоў больш сродкаў асігнуецца на функцыяніраванне рускай культуры і мовы, чым беларускай, чым ужо на працягу больш за паўстагоддзе прыярытэт забяспечваецца не родным, а чужым пачаткам духоўнага жыцця Беларусі. Спадзявацца, што такое пераразмеркаванне дзяржаўных сродкаў на карысць беларускага адбудзецца самапасам, значыцца, не рабіць ні кроку наперад па шляху нацыянальна-культурнага Адраджэння, апусціць рукі перад далейшай русіфікацыяй беларускай нацыі. За прыняцце самых крутых захадаў дзеля выратавання беларускай нацыі ад вымірання ніхто не назаве яе дзяржаву шавіністычнай, а вось калі яна застанецца глухой да нацыянальных патрэб, такая абыякавасць не знойдзе падтрымкі ва ўсім цывілізаваным свеце. Калі дзяржава абнародуе свой курс на выратаванне этнасу, імя якога яна носіць, пачне ажыццяўляць канкрэтныя дзейныя захады па забеспячэнню беларускай культуры і мовы, так патрэбнага ім прыярытэту, гэта адразу ўзніме настрой у іх носьбітаў, станоўча адаб'ецца на нацыянальнай самасвядомасці, прывядзе ў рух, абудзіць ад летаргічнага сну шырокія пласты народу.

Нацыя ніколі не адчуе на ўсю моц свайго Я, калі не створыць уласных Узброеных Сіл, калі ў вайсковых пытаннях будзе залежаць ад паводзін, планаў суседніх дзяржаў. Служба ў нацыянальным войску суверэннай дзяржавы не мае сабе адпаведніка ў справе выхавання ў маладых пакаленняў любові і павагі да роднай Бацькаўшчыны. Усведамленне, што ад тваіх вайсковых звычак і ўмельства залежыць яе баяздольнасць, натхняе радавога і афіцэра на сталае павышэнне свайго прафесійнага майстэрства, вучыць сувымераць усю сваю дзейнасць з інтарэсамі народа, а значыцца, спрыяе росту нацыянальнай самасвядомасці. У такіх людзей яе ўзровень заўсёды будзе вышэй, чым у тых, хто па розных прычынах не прайшоў вайсковай службы. Толькі трэба, каб у камандны састаў уваходзілі людзі, якія бясконца любяць краіну, што паклікала іх на службу, якія цесна знітаваныя сваім нацыянальным паходжаннем з народам, ставяць яго інтарэсы вышэй за ўласныя, бо толькі такія камандзіры могуць выхаваць словам і справай з салдата сапраўднага патрыёта. Па некаторых параметрах вайскоўцы не павінны не толькі адставаць, а нават ісці наперадзе за многія катэгорыі цывільнага насельніцтва ў справе нацыянальна-культурнага Адраджэння, чаму садзейнічае сама арганізацыя жыцця ў арміі. Неадкладнага вырашэння чакае шырокае ўкараненне ва ўсё жыццё вайскоўцаў, у навучальна-выхаваўчы працэс вайсковых вучылішчаў беларускіх ваенна-гістарычных традыцый, бо толькі на аснове творчага выкарыстання мясцовага матэрыялу можна давесці нацыянальную самасвядомасць чалавека з ружжом да аптымальнай адзнакі. На тэрыторыю вайсковых часцей, у памяшканні, дзе жывуць і вучацца вайскоўцы, павінны прыйсці незаслужана забытыя імёны беларусаў, якія ў адказную, цяжкую часіну смела і самаадданна баранілі Бацькаўшчыну ад лютых ворагаў. Імёны славутых беларускіх военачальнікаў далёкіх і блізкіх часоў гісторыі павінны быць увекавечаны ў назвах армейскіх падраздзяленняў і злучэнняў, ваенных школ і вучылішчаў.

Мэтам умацавання нацыянальных пачаткаў у свядомасці беларускага народа і найперш вайскоўцаў добра паслужыла б заснаванне Музея ратнай славы Беларусі. Нельга ўсё зводзіць толькі да ўдзелу нашага народа ў Другой сусветнай вайне, за перамогу ў якой мы заплацілі вельмі высокую цану. У летапіс змагання з рознымі чужынцамі нашы продкі ўпісалі вельмі багата гераічных старонак, значную частку з якіх можна ўвасобіць і ў музейных экспанатах, каб народ ведаў, якой дарагой цаной мы плацім за сваю незалежнасць і як яе трэба цяпер шанаваць, калі нарэшце здзейсніліся доўгачаканыя мары беларусаў.

(Працяг будзе.

Пачатак у № 30).

Пра таленавітага ўрача-акуліста з Брэста, кандыдата медыцынскіх навук Віктара Іосіфавіча Санюкевіча ведаюць не толькі на Беларусі, але і ў краінах блізкага і далёкага замежжа. У яго арсенале — больш як 20 аптычных апаратаў уласнага вынаходства, якія дапамагаюць карэкціраваць зрок у дзяцей і падлеткаў, спыняць прагрэсіруючую блізарукасць, выпраўляць касавокасць.

За шэсць гадоў праз кабінеты прыватнай лячэбніцы прайшло больш чым 7 тысяч хворых. І большасць пазбавіліся сваёй немачы.

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**

## Журботная гадавіна

На іх цяжкае, невыноснае становішча не звяртае ўвагі ні ўрад, ні парламент, ні Міністэрства аховы здароўя. Для гэтых маленькіх грамадзян няма ні лекаў, ні харчу. Яны не карыстаюцца ніякімі льготамі і невядома, ці будуць карыстацца. Яны нібы па-за законам. Гэта нашыя дзеці, якія захварэлі дыябетам.

Не дачакаўшыся дапамогі ад дзяржавы, бацькі хворых, каб хоць неяк ратаваць сваіх дзяцей, стварылі Беларускую няўрадавую гуманітарную арганізацыю "Дзіцячы дыябет". Потым па ўсёй рэспубліцы ў гарадах і мястэчках пачалі ствараццa яе аддзяленні. Галоўная задача арганізацыі — збор сродкаў, на якія можна лячыць дзяцей, купляць лекі і медпрэпараты за мяжой, адпраўляць туды хворых на лячэнне. Для гэтых мэт пры фондзе быў створаны Бізнес-цэнтр. У Маладзечна год назад таксама адкрылася аддзяленне фонду "Дзіцячы дыябет", старшынёй якога стала Нэлі Барысаўна Шлойта.

І вось нядаўна сустрэліся бацькі хворых дыябетам дзяцей на гадавіне, прысвечанай дзейнасці аддзялення. Трывожная і заклапочаная гаворка вялася на сустрэчы аб незайздросным і бядотным лёсе хворых дзяцей. Са слязамі на вачах бацькі гаварылі пра сваіх гаротных дзетак, шукалі разам выйсце са складанага становішча. Адзначалі, што фонд застаўся па-за ўвагай камерцыйных структур і гуманітарных арганізацый горада, таварыства інвалідаў, а дзяржаўныя структуры, можа, і хацелі б дапамагчы, ды самі бедныя.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

ЗВАНОК НА ЎРОК

# Дзе жыве свята?

□ **Уладзімір МІХНО**

*І толькі як надыдзе свята,*
*Баліць душа ад скрухі той...*

**Пімен ПАНЧАНКА.**

Субота. Сёння можна сказаць дакладна: свята ў Талачыне не было. Свята намячалася на заўтра, на нядзелю, апошнюю лютаўскую, на якую прызначылі дзень зімы. Горад да свята рыхтаваўся — ладзіўся гандаль, стараліся культасветустановы, дапамагала сонейка, бадай, па-веснавому яркае, шчодра ўсміхалася бялюткай яшчэ пад снегам зямлі. Ад тае ўсмешкі не было як расплюшчыць вочы. Зіма напрыканцы старалася выглядаць лагоднаю, гарэзліваю.

Свята не заходзіла яшчэ і ў гарадское кафэ, хоць тут чамусьці на разліў прадавалася гарэлка, бяры — не хачу, абы кішэня была шырокая. У кафэ пакуль сядзелі толькі мужыкі з даволі арыгінальнымі насамі ды два нападпітку маладыя хлапцы падлізваліся да касіркі. За столікамі вялася бурная з пахмелля спрэчка, з якое я зразумеў адно: свята ў жыцці, увогуле, не бывае. Сапраўды, якое можа быць свята, калі на закусь вунь стаіць халодны біфштэкс з сухою, акурат шрапнеллю, пярлоўкаю, калі жыццё такое аднастайнае і нуднае, хоць ты яго выкідвай пад лаву, калі ўсё вунь рынулася да рынку, ды нечакана абрынулася, асунулася, з'ехала на нуль, быццам ніколі нічога людскага мы і не мелі.

Шукай, дык знойдзеш. Свята ў Талачыне я ўсё ж адшукаў. Пасялілася яно жыць у другой школе, там жа і вырашыла прапісацца.

А што, месца панаднае: побач царква, міліцыя, як кажуць, і да бога ўлагодзе, і з законам у згодзе. Здавалася б, як было ўпадабаць гэтую звычайную, някідкую, хаця і тыпавую будыніну? Даволі гнятлівыя калідоры — пуставата, дзе-нідзе адвалілася тынкоўка, часам "плыве" каналізацыя, часам сцены, асабліва знадворку, пакрываюцца разнастайнымі падлеткавымі "лісьмёнамі". Усё вяртаецца "на кругі своя": пісалі на пергаменце, на бяросце, на паперы, зараз вось ізноўку ўвекавечваем сябе на камені. Нікуды не дзенешся — графаманія ва ўсе часы існавала.

— Мыем, — шчыра прызнаецца дырэктар школы Святлана Рыгораўна Тамашэвіч.

Сізіфава праца... Бо наўрад ці ўдасца адмыць радзімыя плямы пераходнага ўзросту. Падлеткавага імкнення да самасцвярджэння, якія б вычварныя формы яно ні набывала, можна пазбавіцца толькі стаўшы дарослым. Хаця сядзець склаўшы рукі і чакаць таксама не варта. Педагогі ў другой талачынскай школе гэта добра разумеюць, а таму змагаюцца з "цяжкімі" падлеткамі, якіх, дарэчы, тут хапае, не толькі з дапамогай анучы. Створаны тут савет прафілактыкі правапарушэнняў, які ў сваёй рабоце ў асноўным апіраецца на класных кіраўнікоў і на школьны савет. Уздзейнічае гэты орган, праўда, больш на свядомасць бацькоў, але і самім падлеткам працы хапае. Клін клінам выбіваюць. З "цяжкіх" створаны... дзяжурны атрад на школьных дыскатэках. Часам ім даюць нават вельмі адказныя даручэнні, і, паверце, гэтыя складаныя хлопцы і дзяўчаты аказваюцца вельмі надзейнымі памочнікамі. Ну, а калі гэта не дапамагае — няма роду без выроду, — тады, бывае, падключаецца і міліцыя, балазе пад бокам. Адным словам, да кожнага падыход індывідуальны. З песні слова не выкінеш...

І ўсё ж не гэта вызначае твар школы. Свята, якое тут пасялілася і жыве нават у будныя дні, не любіць адмоўнага біяполя. "Святла напалову" не бывае — альбо яно ёсць, альбо яго няма.

— Школа, — лічыць намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Марына Анатольеўна Рыбіна, — застаецца, бадай, адзіным астраўком, дзе яшчэ можна выкласціся ў працы.

Дзеці вельмі чуйна рэагуюць на фальшывыя ноты, таму настаўнік не можа дазволіць сабе раскошы хаця б на хвілінку расслабіцца, схібіць. Можна памыліцца, бо ўсе мы людзі, але нельга не прызнаць сваёй памылкі.

Твар школы — найперш яе высокі навуковы патэнцыял, цудоўныя высокакваліфікаваныя настаўнікі.

Неўзабаве свята зноўку будзе тут ладзіць свой баль. Рыхтуецца бенефіс настаўніцы матэматыкі Рэгіны Іванаўны Рагоўскай. Свята збярэ ў школу выпускнікоў розных гадоў. Бенефіс... А чаму б і сапраўды гэтаму тэатральнаму слову не пагасціць у школе? Хіба настаўнік, кожны ўрок якога — жывая казка, не мае падставы звацца акцёрам?

Кадры вырашаюць усё. Невядома яшчэ, ці пасялілася б у другой талачынскай школе свята, каб не стварыла яго сваімі ўласнымі рукамі ды штодзённаю самаадданаю працаю завуч-арганізатар. Чалавек вельмі ініцыятыўны і творчы Марына Анатольеўна ўмее аб'яднаць калектыў цікаваю задумкаю, запаліць, захапіць работаю. Дасць Бог дзень — дасць Бог свята. Не клуб вясёлых і знаходлівых, дык гуканне вясны, не вечарына, то дыскатэка. Вучыцца трэба весела... Але ж весела трэба і вучыць. У школе працуе настаўніцкая агітбрыгада, з настаўнікаў жа арганізаваны і хор, які з'яўляецца мясцовай славутасцю.

Флейта, акардэон, скрыпка... Музыка не толькі не перашкаджае ў школе з вельмі сур'ёзным матэматычным ухілам, але, наадварот, дапамагае. З пачатковых класаў дзеці вывучаюць замежную мову і займаюцца... рытмікай. Затым пойдзе інтэграваны курс мастацтва, сусветная мастацкая культура... Хто сказаў, што наступае эпоха трыумвірату невуцтва і амаральнасці. Марына Анатольеўна не згодна. Яна падахвоцілася весці факультатыў па "Асновах рыначнай эканомікі і прадпрымальніцтва" і, паглыбіўшыся ва ўласныя даследаванні і назіранні, прыйшла да вываду: будучыня — за прадпрымальніцтвам таленавітым і высокаадукаваным.

Свята памірае тады, калі памірае фантазія, калі перамагаюць голы прагматызм і халодны разлік. Зайдзіце ў любы клас гэтай школы, і вы пераканаецеся, што нашы фабрыкі выпускаюць... самыя прыгожыя ў свеце шпалеры. Не бяда, што фабрычныя шпалеры нудна-шэрыя і часам зусім нікудышныя, можна, аказваецца, іх так хітра скампанаваць, што пазайздросціць любая мастацкая мазаіка. І люстрам, элегантным і прыгожым, аказваецца зусім не абавязкова баяцца "цяжкіх" падлеткаў. А хлебніцы нават, наадварот, любяць іх умелыя рукі. Хлопцы тут вырабляюць такія прыгожыя хлебніцы, што завуч, не вагаючыся, купіла адну такую сабе. А яшчэ хлопцы старанна выпілоўваюць ды выточваюць цудоўныя кухонныя наборы, вазы для кветак і для алоўкаў, а дзяўчаты спрытна шыюць дзіцячыя касцюмчыкі, вырабляюць сімпатычныя поліэтыленавыя цацкі, прыгожа вышываюць сурвэткі. Усяго і не раскажаш. Трэба ўласнымі вачыма ўбачыць гэтую прыгажосць, каб зразумець, што свята само сабою не прыходзіць, няхай нават яно аб'яўлена, зафішыравана, падфарбавана вiном. Свята — гэта пэўны стан душы. Мы, далібог, развучыліся святкаваць, асабліва калі гэта патрабуе ад нас мабілізацыі душэўных сіл. Бадай, і сапраўды школа яшчэ застаецца адзіным астраўком альбо згусткам энергіі, якая нясе дадатны зарад. Незвычайнае — заўсёды побач. Геніяльнае — заўсёды простае. Вось толькі трэба ўмець яго разгледзець, асэнсаваць, падаць. Свята любіць настойлівасць, энергію, талент...

